www.nv-online.info

№ 51 (3996)

2 ліпеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Заўтра Беларусь святкуе. Слава тым, хто абараніў нашу Радзіму, здабыў Свабоду і Незалежнасць!



*Анатоль ЗЭКАЎ*

## 3 ліпеня 1944 года

...Ішлі па Мінску пераможцы.
Ім кветкі кідалі пад ногі.
Той дзень вайны не быў апошні –
быў год да поўнай Перамогі.
Яны ішлі, і ведаў горад,
калі вітаў сваіх салдатаў:
сустрэўшы год сорак чацвёрты,
не ўсе сустрэнуць сорак пяты,
бо да рэйхстага шлях няблізкі,
і многім суджана загінуць:
каму – назаўтра па-за Мінскам,
каму – пад самым пад Берлінам.
Ды ці пра гэта думаў кожны?
У дзень той урачыста-строга
яны, бы ў дзень вайны апошні,
па Мінску неслі Перамогу.



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,*
*спецыяльна для “Народнай Волі”*

## Хочаш кілбасы – думай пра свабоду

**Парадокс: узровень жыцця беларусаў падае, а электаральны рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі, паводле дадзеных НІСЭПД, падрос за квартал з 34% да 39%. Ягоная перамога на прызначаных на 11 кастрычніка выбарах выглядае справай тэхнікі. Падобна на тое, што наша грамадства па вушы сядзіць у багне фаталізму. Не сказаць, што яно так ужо пляскае ў ладкі палітыцы нязменнага прэзідэнта, але многія не бачаць альтэрнатывы ды баяцца, што спроба перамен можа прывесці да вялікай крыві, як ва Украіне.**

**Тут можна, вядома, патаптацца па апазіцыі, якая не здолела абраць адзінага кандыдата і зноў ідзе ў кампанію некалькімі калонамі. Але пастаўлю пытанне іначай: а наколькі гатовы беларусы да свабоды, дэмакратыі, рэформаў? Да непазбежнай у гэтым выпадку рызыкі, пакутлівай ломкі звыклага ладу жыцця?**

**У снежні 1991 года незалежнасць, фармальная свабода ад Масквы звалілася на наша грамадства як снег на галаву. І што ж у выніку? На адносна дэмакратычных выбарах 1994 года большасць прагаласавала за чалавека, які паабяцаў вярнуць светлую мінуўшчыну ў духу СССР. Многім прыхільнікам саўгаснага дырэктара са Шклоўшчыны, пэўна ж, мроілася вяртанне кілбасы па 2,20.**

**Але вось цяпер з 1 ліпеня крамы перасталі прымаць 50-рублёўкі. За савецкім часам на такія грошы можна было жыць паўмесяца, цяпер гэта нікчэмная паперчына. Беларусь паказвае рэкорды абясцэньвання нацыянальнай валюты на постсавецкім абсягу. З 2009 года мы перажылі чатыры дэвальвацыі. Вось вам і стабільнасць, і кілбаса па 2,20. Нават з купюрай у 200. 000 пачуваешся ў гіпермаркеце жабраком.**

**На жаль, яшчэ малавата беларусаў разумеюць наўпроставую сувязь між заможнасцю і воляй. У свеце практычна няма прыкладаў (сінгапурскі цуд – спецыфічны выпадак), каб жорсткая аўтакратыя забяспечыла высокі дабрабыт. Затое самыя багатыя краіны планеты – гэта дэмакратыі.**

**Днямі я вярнуўся з Нарвегіі. Там сярэдні заробак – больш за 40 тысяч крон, гэта недзе пяць з паловай тысяч долараў (праўда, вялікія падаткі, і ўсё ж па нашых мерках яны там жывуць як у бога за пазухай). І ці выпадкова тая ж Нарвегія – стабільна на высокіх месцах у сусветных рэйтынгах правоў ды свабод, уключна са свабодай прэсы? Вы скажаце: дык у іх жа нафта! Але і Беларусь не адзін год была фактычна нафтавым афшорам – і дзе мы? Ну, забрукавалі райцэнтры пліткай, набудавалі лядовых палацаў. Але без разняволення эканомікі, людской ініцыятывы селі ў глыбокі галёш.**

**Нарвежцы шмат гадоў вялі барацьбу за свабоду – ад Даніі, Швецыі, за нацыянальную самабытнасць, за грамадзянскія правы. У выніку – і незалежнасць, і дэмакратыя, і багацце на зайздрасць нам. А ля каралеўскага палаца (манарх там намінальны) масава фатаграфуюцца турысты: іх не ганяюць, як у нас, ад адміністрацыйных будынкаў.**

**Сёння Лукашэнка ўпершыню за час свайго кіравання не мае рэсурсу падкарміць электарат. Заробкі замарожаны, а цэны тым часам паўзуць угару. Тым не меней пратэстных настрояў у грамадстве няма. Людзі сцяліся, бо прапаганда дзяўбе: рыпнецеся – будзе як ва Украіне. Там, маўляў, захацелі Еўропы – атрымалі разруху ды кроў.**

**Так, Расія не хоча адпускаць свае былыя тэрыторыі. Анексія Крыма, пажар на Данбасе – гэта помста імперыі за “рэвалюцыю годнасці”. Але наіўна думаць, што калі мы, беларусы, будзем сядзець як мыш пад мятлой, то імперыя нас пашкадуе, не кране.**

**Рэжым Лукашэнкі не мае палітычнай волі саскочыць з наркатычнай іголкі маскоўскіх субсідый. Заўтра Крэмль, які надоўга ўвайшоў у клінч з Захадам, можа размясціць у нас сваю авіябазу, паслязаўтра – стратэгічныя бамбавікі з ядзернай зброяй, “Іскандэры”. Мы зноў станем дэ-факта Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругай.**

**А паралельна Масква неўпрыкмет скупіць краіну. Не абавязкова нават ладзіць класічны аншлюс. Цалкам возьмуць пад каўпак, прыбраўшы да рук актывы, пасадзіўшы тут у крэсла стопрацэнтную марыянетку ды пакінуўшы туземцам цацанкі псеўдасуверэнітэту ў выглядзе герба і сцяга а-ля БССР. І калі хочаце пабачыць будучыню Беларусі пры такім сцэнарыі – зрабіце экскурсію хаця б на суседнюю Пскоўшчыну, дзе палеткі даўно зараслі пустазеллем, а дарогі разбіты ўшчэнт.**

**А для кантрасту з’ездзіце ў Польшчу. На пачатку 1990-х палякі скуплялі ў нас любы тавар, сёння беларусы адцягваюцца там на шопінгу: больш танна, больш якасна. Палякі прайшлі праз шокавую тэрапію, адпакутавалі, але стварылі дынамічную эканоміку, якая расце нават на тле навакольных крызісаў. З 1989 года іх ВУП на душу насельніцтва падняўся ўдвая з гакам.**

**І справа не толькі ў тым, што знайшоўся такі круты рэфарматар Бальцаровіч. У Беларусі, калі будзе запыт, знойдуцца не горшыя Бальцаровічы. Палякі ж былі гатовы ператрываць ломку, дыскамфорт дзеля лепшага жыцця, росквіту краіны, за волю якой яны біліся стагоддзямі. На кожным кроку ў Варшаве бачыш мемарыяльныя шыльды ў гонар змагароў – супраць расійскага царызму, нацызму ды іншых навал. Народ адваяваў сабе еўрапейскую перспектыву.**

**Сёння хто-кольвек з нашай апазіцыі наракае на Еўропу: маўляў, здрадзіла, ідзе на хаўрус з рэжымам і г.д. Але свой шлях барацьбы за волю (менавіта за волю, а не за большую пайку) беларусы мусяць прайсці самі, як праходзілі яго амерыканцы, французы ці палякі. Калі ж ты абіраеш кілбасу замест свабоды, то заўтра рызыкуеш апынуцца і на нішчымніцы, і ў хамуце.**

ВЫБАРЫ

# *Старт дадзены! Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі прызначаны на 11 кастрычніка.*

## Жанчын – наперад



Ужо ў першыя гадзіны пасля прызначэння прэзідэнцкіх выбараў прэтэндэнтка на пасаду кіраўніка дзяржавы ад кааліцыі «Народны рэферэндум» Таццяна Караткевіч была ля Мінскага гарвыканкама, каб падаць заяўкі на перадвыбарныя пікеты.

З аднаго боку, агітацыйныя пікеты магчымы, толькі калі кандыдат ужо зарэгістраваны. Але, з другога боку, заяўка пададзена на пікеты па «зборы подпісаў па стварэнні ініцыятыўнай групы». Іншымі словамі, не кандыдаткай, а звычайнай грамадзянкай.

Паглядзім, што з гэтага выйдзе. Сама Таццяна кажа, што да выбараў гатова і афіцыйна пачынае кампанію.

Падчас прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды намеснік старшыні Партыі БНФ і былы кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года Рыгор Кастусёў пажадаў Караткевіч добрага шляху ў гэтай няпростай справе. «Партыя БНФ заўсёды выступала за адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл. Калі гэтага зрабіць не атрымалася, мы выступілі за тое, каб быў адзіны хаця б ад кааліцыі «Народны рэферэндум», -- нагадаў ён.

Акрамя таго, Кастусёў папракнуў іншых прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта з мужчынскага асяроддзя: маўляў, ён размаўляў з усімі прэтэндэнтамі, каб яны адкінулі свае амбіцыі і падтрымалі Караткевіч. «Але джэнтльменаў, на жаль, не знайшлося», – з прыкрасцю сказаў Кастусёў, і прапанаваў мужчынам падумаць пра ягоную прапанову яшчэ раз.

ДА СЛОВА

Журналісты Радыё Свабода распавялі пра цікавы выпадак. Калі ў дзень прызначэння даты выбараў яны выйшлі на вуліцы Мінска з апытаннем, каго мінчане бачаць кандыдатам, то нечакана пачулі такі адказ:

– Караткевіча.

– Якога? – са здзіўленнем запыталася журналістка.

– Уладзіміра.

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

## Лебедько приглашает в свою команду!



«Меня зовут Анатолий Лебедько. Я лидер Объединенной гражданской партии, которая выступает за создание новых рабочих мест. Мы знаем, как это сделать, у нас есть программа создания новых эффективных рабочих мест с достойной оплатой.

Эта программа даст каждому новые возможности, достойную жизнь, право выбора и надежное будущее.

В моей профессиональной команде доктор экономических наук, профессор Станислав Богданкевич, премьер-министр Беларуси 1994–1996 гг. Михаил Чигирь, экономист Лев Марголин. С нами народная артистка Беларуси Зинаида Бондаренко, кинорежиссер Юрий Хащеватский, народные депутаты Верховного Совета СССР и Беларуси Виктор Корнеенко, Александр Добровольский, Марат Афанасьев. В нашей команде люди всех возрастов и занятий: врачи, учителя, студенты, предприниматели, рабочие – все, кто хочет нормально работать и достойно зарабатывать в своей стране...»

Анатолий Лебедько не изменил своего решения участвовать в президентских выборах. И выступил с заявлением, в котором пригласил всех желающих присоединиться к его команде.

Руководить избирательным штабом лидера ОГП будет экономист Лев Марголин.

ОПРОС

## Эх, если б был единый кандидат...

Независимый институт социально-экономических и политических исследований, зарегистрированный в Вильнюсе, обнародовал данные, которые показывают, с каких электоральных рейтингов начинается старт президентской кампании. Вопрос: «Если Александр Лукашенко будет в пятый раз выставлять свою кандидатуру на президентских выборах и с ним будет соперничать кандидат от демократической оппозиции, за кого из них вы бы проголосовали?»

37,4% ответили «за Лукашенко», 20,6% – «за кандидата от демократической оппозиции», 27% не проголосовали бы «ни за одного из них». Таким образом, единый кандидат оппозиции в рейтинге не очень сильно отставал бы от Александра Лукашенко.

Если бы, конечно, такой кандидат был. Что касается персональных рейтингов оппозиционных политиков, то самый высокий у Николая Статкевича – 5%.

ХРОНІКА

## На дыстанцыю не выйшла



Намесніца старшыні ГА “Таварыства беларускай мовы” **Алена Анісім** абвясціла, што выходзіць з прэзідэнцкай кампаніі.

Адпаведнае рашэнне прыняла не персанальна Анісім, а ўся яе каманда. У выніковай заяве грамадзян, якія ў свой час падтрымалі вылучэнне Анісім у прэзідэнты, сказана, што ініцыятыва па вылучэнні была прадыктавана *«геапалітычнай сітуацыяй, калі адбыўся захоп часткі Украіны і пачуліся закіды адносна таго ж лёсу і ў дачыненні да Беларусі».* А таксама *«нежаданнем апазіцыі знайсці паразуменне і выйсці на гэтыя выбары з адзіным кандыдатам».*

За гэты час, адзначаюць грамадзяне, якія збіраліся вылучаць Анісім, быў праведзены Усебеларускі кангрэс за незалежнасць, прыняты Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі, арганізавана абмеркаванне палітычнай і эканамічнай сітуацыі на пасяджэннях адпаведных камісій. *«Улічваючы ўсё вышэйсказанае, а таксама адсутнасць канкрэтных змен у выбарчым працэсе, мы прыйшлі да наступных высноў: спыніць свой удзел у кампаніі па вылучэнні кандыдатуры на пасаду прэзідэнта ад нацыянальна-патрыятычных сіл у сёлетняй выбарчай кампаніі. Сканцэнтраваць свае намаганні па кансалідацыі беларускага грамадства на аснове дыялогу і пашырэння кола падпісантаў Маніфеста ў абарону незалежнасці»,* – гаворыцца ў дакуменце.

На прэс-канферэнцыі Алена Анісім зазначыла: *«Нават калі я не лічу гэта адзіна правільным рашэннем, тым не менш такое рашэнне каманды. Я лічу, што трэба падпарадкоўвацца, бо працаваць можна толькі ў камандзе. Такім чынам, гэта наша агульнае рашэнне».*

Дарэчы, Алена Анісім не выглядала расчараванай з нагоды свайго зняцця з выбараў. Але і не была шчырай. Па крайняй меры дадзеныя тлумачэнні прычын зняцця з выбараў выглядаюць прыцягнутымі за вушы.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Новае – гэта прыхаванае старое

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына назвала некалькі адметнасцяў сёлетняй прэзідэнцкай кампаніі. Гэта тое, што будзе адрозніваць абранне прэзідэнта ў 2015 годзе ад папярэдніх выбараў.

**Па-першае, кандыдаты ў прэзідэнты будуць самастойна фінансаваць сваю кампанію**. Зняты абмежаванні на памер асабістага фінансавага фонду кожнага кандыдата ў прэзідэнты, і гэтыя фонды можна ствараць ужо з моманту рэгістрацыі ініцыятыўных груп.

У нармальных умовах такую норму, напэўна, трэба было б прызнаць слушнай. Але ў беларускіх умовах які бізнесмен не пабаіцца фінансава падтрымаць кандыдата ад апазіцыі? Такім чынам, падаецца, што ранейшая норма, калі ўсе кандыдаты атрымлівалі на выбары аднолькавую суму з бюджэту, была больш дэмакратычнай.

**Другое. Звесткі пра кандыдатаў будуць паведамляцца ў агульнай улётцы, якую падрыхтуе Цэнтральная выбарчая камісія.**

Такія ўлёткі праз “Белпошту” атрымаюць усе выбаршчыкі.

З аднаго боку, новаўвядзенне добрае, бо адзін кандыдат зможа надрукаваць улёткі, другі – не, адзін данясе іх да паштовых скрыняў, другі не данясе... Але рашэнне пра змест гэтых улётак і пра тое, якую інфармацыю пра кандыдатаў размясціць, прымае Цэнтрвыбаркам.

**Трэцяе. На сёлетніх выбарах забаронены заклік да байкоту выбараў, прычым гэта тычыцца не толькі патэнцыяльных кандыдатаў і сяброў іхніх каманд, але і ўсіх выбаршчыкаў.**

Забарона мець сваю пазіцыю і агучваць яе – гэта, зразумела, вельмі далёка ад дэмакратыі. Але Лідзія Ярмошына сцвярджае, што Беларусь далучылася да Канвенцыі аб стандартах выбараў СНД, а ў гэтай канвенцыі існуе такая забарона.

**Чацвёртае. Даверанымі асобамі кандыдатаў у прэзідэнты не могуць быць іншыя кандыдаты ў прэзідэнты.**

Лідзія Ярмошына патлумачыла гэта тым, што падчас ранейшых кампаній многія кандыдаты карысталіся такой магчымасцю і фактычна павялічвалі час агітацыі на сваю карысць. Трэба разумець, што кандыдат Аляксандр Лукашэнка, для якога з 1994 года ўвогуле не існавала такога паняцця, як абмежаванне па часе ў тэле- і радыёэфіры, не павялічваў штучна час агітацыі за самога сябе.

**Пятае. Зменена форма дэкларацыі аб даходах, якую падаюць кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду.**

Цяпер калі кандыдат у прэзідэнты не мае крыніцы прыбыткаў (афіцыйна не працуе), то ён абавязаны паказаць, за чый кошт ён існуе.

Ёсць і некаторыя іншыя нязначныя змяненні. Напрыклад, кандыдаты атрымалі магчымасць абскардзіць некаторыя рашэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі – напрыклад, аб адмове ў рэгістрацыі. Але па галоўных праблемных момантах беларускіх выбараў – празрыстасці і адкрытасці падліку галасоў, дэмакратычнасці фарміравання складу выбарчых камісій, кантролю за скрынямі для галасавання, датэрміновым галасаванні – ніякіх змен не адбылося. Так што пад выглядам новага мы будзем мець даўно знаёмае старое.

**Алег СНОЎ.**

ПРАГНОЗ

## Пяць кандыдатаў?

Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына выказала свой прагноз адносна колькасці кандыдатаў, якія могуць быць зарэгістраваны на выбарах прэзідэнта.

– Спадзяюся, што іх будзе хаця б не менш за пяць, – сказала Лідзія Ярмошына. – У выбаршчыкаў павінен быць выбар, таму што ў выпадку, калі не ажыццяўляецца палітычная барацьба і няма канкурэнцыі на выбарах (тым больш – прэзідэнцкіх), выбаршчыкі адчуваюць пэўнае расчараванне, што адбіваецца на іх яўцы на ўчасткі.

Пагадзіцеся, у старшыні ЦВК дзіўныя ўяўленні пра сапраўдную палітычную барацьбу і сапраўдную палітычную канкурэнцыю.

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

## Мінус адзін

Актывіст з Кобрына Алесь Мех вырашыў адмовіцца ад сваіх прэзідэнцкіх амбіцый і падтрымаць ініцыятыву Някляева аб вылучэнні адзіным кандыдатам ад дэмсіл Міколы Статкевіча.

Паводле слоў Меха, яго каманда пазітыўна ўспрымае ідэю Някляева, але лічыць, што гэтую ініцыятыву «неабходна пашыраць». У прыватнасці, трэба «заклікаць народ наогул не ўдзельнічаць у гэтых выбарах, а тым, каго прымусяць прыйсці на выбары, прапанаваць выкрэсліваць усіх кандыдатаў, імёны якіх будуць у бюлетэнях», лічыць Алесь Мех.

АФІЦЫЙНА

## МТЗ і «Гомсельмашу» акажуць дзяржпадтрымку

*Аляксандр Лукашэнка падпісаў шэраг указаў аб стабілізацыі фінансавага становішча буйных прамысловых прадпрыемстваў краіны.*

Так, паводле ўказа №280, Мінскаму трактарнаму заводу дадзена права ажыццявіць эмісію аблігацый у аб’ёме, які не перавышае 150 млн долараў.

У той жа час, паводле ўказа №282, Мінскі трактарны завод атрымаў права на растэрміноўку да 22 кастрычніка 2015 года па выплаце ўтворанай запазычанасці па ПДВ у памеры 59,5 млрд рублёў.

Пры гэтым ва ўказе сказана, што вызваленыя ў сувязі з даваннем растэрміноўкі сродкі павінны быць накіраваны заводам на папаўненне ўласных абаротных сродкаў.

Таксама Лукашэнка падпісаў указ, паводле якога дзяржпадтрымка аказваецца яшчэ аднаму буйному машынабудаўнічаму прадпрыемству – «Гомсельмашу».

У адпаведнасці з указам №281 Міністэрству фінансаў даручана выпусціць аблігацыі на суму 425,8 млн долараў, якія павінны выкупіць камерцыйныя банкі. У адпаведнасці з указам удзельнікам холдынга «Гомсельмаш» да 1 жніўня са сродкаў рэспубліканскага бюджэту, якія паступілі ад размяшчэння пазыковых папер, павінны быць дадзены бюджэтныя пазыкі ў доларах са штоквартальнай выплатай працэнтаў за карыстанне імі ў памеры 7% гадавых.

Паводле ўказа, вяртанне бюджэтных пазык будзе ажыццяўляцца з 1 ліпеня 2016 года па 30 чэрвеня 2022 года штогод у сумах не менш як 50 млн долараў (у 2016 годзе – не менш як 25 млн долараў).

ДАРЭЧЫ

## Напалову сакрэтны ўказ

Варта адзначыць, што акрамя названых дакументаў Аляксандр Лукашэнка таксама падпісаў указ №284, які носіць напалову сакрэтны характар і прадугледжвае меры, скіраваныя на «стабілізацыю фінансава-эканамічнага стану асобных прамысловых арганізацый». Восем пунктаў згаданага ўказа маюць грыф «для службовага карыстання».

У адкрытым варыянце названага ўказа ўтрымліваюцца толькі меры, якія прадугледжваюць павелічэнне ўнутранага дзярждоўгу Беларусі на 9 трлн рублёў. Акрамя гэтага, на 7 трлн рублёў, паводле ўказа, плануецца павялічыць дзярждоўг, гарантаваны ўрадам.

